# Наша Свабода

№131(218) ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

3 СНЕЖНЯ 2001 года ПАНЯДЗЕЛАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/с 103

тэл. 284-36-53

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by

http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


## Калугіну пагражае да 8 гадоў

Прад'яўлена афіцыйнае абвінавачанне былому генеральнаму дырэктару мінскага ЗАТ "Атлант" Леаніду Калугіну.

Калугін абвінавачваецца ва ўчыненні злачынстваў па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі: 424, частка 3 (злоўжыванне ўладай або службовымі паўнамоцтвамі. Караецца пазбаўленнем свабоды на тэрмін да 8 гадоў з канфіскацыяй ці без канфіскацыі маёмасці); 225 (невяртанне з-за мяжы замежнай валюты. Караецца штрафам, абмежаваннем свабоды на тэрмін да 4 гадоў, пазбаўленнем свабоды да трох гадоў); 233, частка 2 (незаконная прадпрымальніцкая дзейнасць. Караецца абмежаваннем свабоды на тэрмін да пяці гадоў або пазбаўленнем свабоды на тэрмін ад 2 да 5 гадоў).

Мера стрымання ў дачыненні да Леаніда Калугіна застаецца ранейшай — утрыманне пад вартай. Падследны і яго абарона падалі хадайніцтва аб змяненні меры стрымання. На іх думку, няма ніякіх падстаў утрымліваць Калугіна пад вартай.

Нагадаем, што дырэктар ЗАТ "Атлант" быў затрыманы 21 лістапада 2001 года. Следства ў дачыненні да яго праводзіць следчая група Дэпартамента фінансавых расследаванняў Камітэта дзяржкантролю.

БелаПАН

## Памяць пра храм

Вечарам 29 лістапада ў Гродне адбылося масавае мерапрыемства ў памяць узарванага 40 гадоў таму храма Фара Вітаўта. Мітынг-рэквіем пачаўся ў 17.30 і працягваўся каля гадзіны. Нягледзячы на забарону гарвыканкама, каля 200 жыхароў Гродна, прадстаўнікоў розных партыяў, грамадскіх аб'яднанняў, творчай інтэлігенцыі сабраліся ў скверы каля Палаца культуры тэкстыльшчыкаў, на месцы, дзе стаяў храм.

На мітынгу выступіў намеснік старшыні гродзенскага аддзялення БНФ, вядомы мастак Дзмітрый Іваноўскі. Ён расказаў пра гісторыю Фары Вітаўта. Паводле яго словаў, у гэты дзень людзі сабраліся для таго, каб успомніць пра цудоўны твор архітэктуры і выказацца супраць знішчэння беларускай культуры, мовы, незалежнасці, супраць будаўніцтва аўтадарогі ў раёне Курапатаў. Прысутныя выказалі надзею, што разбураны храм будзе адноўлены. Прыблізна на тым месцы, дзе знаходзіўся алтар, прысутныя з ялowых галінаў, пераразаных бел-чырвона-белымі стужкамі, выклалі на снезе шматметровы крыж. Потым адбылася малітва, падчас якой адбыўся невялікі інцыдэнт. Усе знялі галаўныя ўборы. Толькі міліцэйскі аператар, які здымаў акцыю, адмовіўся зрабіць гэта, чым выклікаў абурэнне прысутных. У выніку і ён вымушаны быў зняць свой галаўны ўбор.

Генадзь БАРБАРЫЧ

**Либерализации не будет**

*Интервью председателя консультационного совета Института приватизации и менеджмента Павла Данейко НАШАЙ СВАБОДЗЕ*

Стр.5



Экіпаж атамнай падводнай лодкі «Курск» загінуў у выніку дрэнна арганізаваных вучэнняў. Прэзідэнт Расіі Пуцін публічна абвясціў, што аб'ектыўных доказаў, якія пацвярджаюць высунутую адміраламі версію аб сутыкненні з чужой падводнай лодкай, не атрымана. Адміралы за свае грахі звольненыя з пасадаў, экіпаж за чужыя - паплаціўся жыццём. *Працяг тэмы на стар. 4*

## «Насячы грошай і знікнуць»

*Такая асноўная задача элітаў у краінах СНД. Гэтак дырэктар Інстытута праблемаў глабалізацыі Міхаіл Дзелягін выказаўся ў інтэрв'ю карэспандэнту «Vesti.ru» Д.Старосціну.*

***— Нядаўна Дзяржцума прыняла заканадаўства, якое рэгламентуе ўступленне ў склад Расіі іншых дзяржаваў у выпадку, калі ў іх узнікае такое жаданне. Ці можа гэта калі-небудзь адбыцца?***

— Ну, усё ж такі цяпер не 1950-я гады, калі Манголія і Балгарыя да нас прасіліся. Таму я думаю, што гэты закон сваёй актуальнасцю нагадвае вядомы закон аб пчалярстве. Гэта спроба рэгламентаваць законамі ўсё, што адбываецца навокал. Я мяркую, што калі якая-небудзь краіна захоча ўвайсці ў склад Расіі, дык гэтае пытанне будзе разглядацца асобна. Усё роўна прыйдзецца прымаць закон, прычым канстытуцыйны закон аб уключэнні ў склад Расіі такойсьці канкрэтнай краіны, і нават змяняць канстытуцыю, у якой пералічваюцца суб'екты Расійскай Федэрацыі. Так што, на маю думку, таварышы дэпутаты паспяшаліся...

*Заканчэнне на стар.4*

## Месца, дзе пахавалі Завадзкага, вядомае

*Былы супрацоўнік КГБ Генадзь Угляніца і актывіст арганізацыі «Край» Андрэй Жарнасек, якія зараз у Нарвэгіі, лічаць, што зьнікненьне Захаранкі, Ганчара і Красоўскага, а таксама Завадзкага – зьвёны аднаго ланцуга. Працягваем знаёміць чытачоў з фрагмэнтамі эксклюзіўнага інтэрвію Угляніцы і Жарнасека Беларускай службе Радыё «Свабода».*

***– Такім чынам, людзі з расейскага войска, якія затрымлівалі Завадзкага ў Чачэніі, былі пасьля ўбачаньня Завадзкім у форме аддзелу Паўлічэнкі. Так я вас зразумеў?***

**Андрэй ЖАРНАСЕК:**

– Так. Менавіта так. І яны яго пазналі, вось у чым справа. Таму атрымліваецца так, што Лукашэнка, калі казаў, што Завадзкага ... ён ня ведаў на самой справе, таму што яму не даклалі пра тое яшчэ. Потым яму даклалі ўжо, ён ужо потым пагадзіўся з гэтай справай. А да гэтага ён сапраўды ня ведаў.

***– Які тады быў сэнс у зьнікненьні, забойстве Завадзкага?***

– А вы ўявіце сабе такі варыянт, што спадар Завадзкі разам са спадаром Шараметам выдаюць гэтую інфармацыю ў эфір, аб тым, што на тэрыторыі Расеі ваюючь собраўцы спадара Паўлічэнкі – які будзе рэзананс, і міжнародны ў тым ліку? Гэтая версія пацьвярджаецца наступнымі фактамі. Па-першае, тэлефон у Завадзкага праслухоўваўся. Ёсьць толькі адна фірма, скажам так, якая можа праслухоўваць тэлефонныя перамовы без санкцыі пракурора – гэта «фірма» спадара Васільчанкі, вялікага сябра спадара Шэймана, яна месьціцца на Талбухіна, 5а і завецца Аддзел выведкі Рады Бясьпекі. Вось яны могуць праслухоўваць любыя перамовы і тэлефоны бяз санкцыі пракурора. Потым паглядзіце – нашто было ставіць машыну Завадзкага ў аэрапорце? Гэта ж прасьцей было скрасьці яго дзесьці па трасе, схаваць гэтую машыну, каб ніхто ніздзе нікога не шукаў. Для чаго яе паставілі менавіта там? Для таго, каб кантраляваць Шарамета. Пры гэтым уявіце сабе – чалавек едзе на машыне Завадзкага ў аэрапорт. Міліцыя зьнятая ў той момант, бо ловіць некага па апэрацыі «Перахват», нейкую скрадзеную машыну. Хто мог даць пра гэта загад?

*Заканчэнне на стар.3*



**ВЕСТКІ**



## В'етнамцы будуць збіраць МАЗы

У В'етнаме бліжэйшым часам можа быць арганізаваная вытворчасць па зборцы беларускіх МАЗаў. У гэтай краіне ўжо працуюць цэхі па выпуску мінскіх матацыклаў і трактараў «Беларусь».

## Па тэмпах прамысловага росту — у хвасце СНД

Лідэрам у СНД па тэмпах прамысловага росту за 9 месяцаў бягучага года стала Украіна з 16,6%. На другім месцы — Таджыкістан з 16%, далей ідзе Казахстан, дзе прамысловы рост склаў 13,8%, потым Малдова — 12,2%, Кіргізія — на 7,1%, Азербайджан — 5,4%, Расія — 5,2%. У Беларусі гэты паказчык — 4,6 адсоткаў.

## Калядны інтэрнэт

З 1 снежня 2001 года па 31 студзеня 2002 года рэспубліканскае аб'яднанне «Белтэлекам» уводзіць для карыстальнікаў бесправоднага доступу ў інтэрнэт тарыф пад назвай «Калядны». Ніжэйшы за звычайны на 10%, ён будзе дзейнічаць у працоўныя дні з 8 да 20 гадзінаў.

## Да падвойнага юбілею

У наступным годзе ў Беларусі пройдзе цэлы шэраг акцыяў, прымеркаваных да падвойнага 120-гадовага юбілею Янкі Купалы і Якуба Коласа. У прыватнасці, будуць выпушчаныя юбілейныя манеты, календары і паштовыя маркі, а таксама кампакт-дыскі з песнямі на вершы паэтаў, знятыя стужкі пра літаратурныя музеі Купалы і Коласа. Мінкульт абяцае, што напачатку 2002 года ў Купалаўскім тэатры будуць адноўленыя паказы спектакля «Тутэйшыя».

## У Брэсце з'явіцца *Dolby*

Жыхары Брэста хутка змогуць глядзець кіно ў сістэме *Dolby*. Яна будзе ўстаноўленая ў кінатэатры «Беларусь», які зачынены на працу ўжо 5 гадоў, прыватнай прадпрымальніцай, якой гэты кінатэатр аддадзены ў арэнду.

## Новы скансен-музей

Скансен-музей з'явіўся ў аднайменнай вёсцы пад Ганцавічамі. У музеі пад адкрытым небам «Сялянскі двор» створана экспазіцыя рэальнага побыту палешукоў 200 гадоў таму.

## Абмеркаванне стратэгіі беларускай мовы

Стратэгія развіцця беларускай мовы ў XXI стагоддзі будзе разгледжана на паседжанні Таварыства беларускай мовы, якое адбудзецца 16 снежня ў Мінску ў Чырвоным касцёле. Стратэгія падрыхтаваная актывістамі ТБМ і вядомымі моваведамі.

**НАДВОР'Е**




Крыніца: www.gismeteo.ru

**Курс наяўнага долара на «чорным рынку»**

**1550**

## Недзяржаўныя кошты ніжэй за дзяржаўныя

У бліжэйшыя гады сфера бытавога абслугоўвання насельніцтва будзе развівацца ў асноўным за кошт недзяржаўнага сектара. Пра гэта заявіў 29 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску генеральны дырэктар дзяржаўнага аб'яднання арганізацый бытавога абслугоўвання насельніцтва «Белбыт» Уладзімір Цялежнікаў.

Паводле яго словаў, ухваленая месяц таму ўрадам праграма развіцця сферы бытавога абслугоўвання насельніцтва на 2001-2005 гады прадугледжвае як мінімум 50-працэнтны рост аб'ёму аказваемых паслуг у параўнанні з 2000 годам. Разам з далейшым развіццём недзяржаўнага сектара, доля якога перавышае ўжо 80%, праграма прадугледжвае дзяржаўную падтрымку арганізацыяў, размешчаных у сельскай мясцовасці, а таксама рэструктурызацыю шматпрофільных стратных дзяржаўных прадпрыемстваў.

Як паведаміў Цялежнікаў, галіна практычна перайшла на свабоднае цэнаўтварэнне, пры гэтым «часта цэны недзяржаўных прадпрыемстваў ніжэйшыя, чым дзяржаўных». У пераліку паслуг, кошт якіх рэгулюецца дзяржавай, засталіся паслугі лазняў і душавых, цырульняў (акрамя паслуг салонаў і салонаў тыпу «люкс») і некаторыя іншыя.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## ЖЫЛЛЁ

## Магілёўцы будуюць Маскву

Магілёўскія архітэктары возьмуць удзел у будаўніцтве жылля ў Маскве.

Інстытут «Магілёўграмадзянпраект» атрымаў заказ ад «Маспраекта» на праектаванне блока з чатырох 6-паверхавых жылых дамоў у мікрараёне Куркіна расійскай сталіцы. Пачалася работа па выкананні праектнай дакументацыі.

Акрамя таго, кіраўніцтва магілёўскага інстытута вядзе перамовы аб праектаванні комплексаў жылых дамоў для гарадоў Падмаскоўя — Падольска і Жалезнадарожнага.

**Канстанцін УВАРАЎ**

## З КДБ у Нацыянальны архіў

Камітэт дзяржаўнай бяспекі Рэспублікі Беларусь 30 лістапада перадаў на пастаяннае захаванне ў Нацыянальны архіў Беларусі архіўныя крымінальныя справы ў дачыненні да нямецкіх ваеннапалонных, асуджаных за злачынствы, учыненыя падчас Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Беларусі. Усяго перададзены 2.843 архіўныя справы ў дачыненні да 3.603 чалавек.

Гэта не першая перадача падобнага кшталту матэрыялаў. У 1996 годзе КДБ перадаў на пастаяннае захоўванне ў Нацыянальную бібліятэку 14 рарытэтных літаратурных твораў вядомых беларускіх пісьменнікаў, а таксама перыядычныя выданні, якія выпускаліся германскімі акупацыйнымі ўладамі і іх памагатымі на тэрыторыі Беларусі. У 1999 годзе беларускія спецслужбы перадалі ў Беларускі дзяржаўны архіў-музей дакументы, фатаграфіі, лісты з архіўных справаў неабгрунтавана рэпрэсаваных беларускіх пісьменнікаў і паэтаў. У 2000 годзе ў Беларускі дзяржаўны архіў кінафотафонадакументаў КДБ перадаў унікальныя фільмы, створаныя германскімі прапагандыстамі ў гады Другой сусветнай вайны.

У цэнтры інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ паведамілі, што сёння вядзецца праца па падрыхтоўцы да перадачы ў дзяржаўныя архівы архіўных фільтрацыйных справаў на савецкіх грамадзян, угнаных пад прымусам у гады Вялікай Айчыннай вайны з тэрыторыі СССР.

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## КРЫМІНАЛ

## Свідравалі газапровод

29 лістапада ў Бярозаўскім раёне Брэсцкай вобласці выяўлена пашкоджанне газапровода «Таржок – Івацэвічы – Даліна – Дашава – Мінск».

Як паведамілі БелаПАН ва ўпраўленні МНС па Брэсцкай вобласці, паведамленне ад дзяжурнага УУС ва УМНС паступіла каля 18 гадзін вечара. Выехаўшыя на месца супрацоўнікі Бярозаўскага РАУС і раённага аддзела па надзвычайных сітуацыях у двух кіламетрах на поўдзень ад вёскі Голіцы знайшлі раскапаную трубу газапровода, якую спрабавалі прасвідраваць. Зламыснікі не давялі сваю справу да канца – выкапаўшы яму (газапровод знаходзіцца на глыбіні 1 метр), – яны пачалі свідраваць трубу, таўшчыня якой 18 міліметраў. На месцы злачынства знойдзены зламаны свердзел. Зафіксавана нязначная ўцечка газу. Участак Бяроза – Кобрын быў адключаны. Зараз спецыялісты Кобрынскага ўпраўлення магістральных газаправодаў праводзяць тут аднаўленчыя працы.

Афіцыйнай версіі здарэння няма. Паводле некаторых меркаванняў, злачынцы перабывалі газапровод з прадуктаправодам. У адваротным выпадку можна гаварыць пра дыверсію. Злачынца ці злачынцы пакульне затрыманыя. Па гэтым факце супрацоўнікамі міліцыі праводзіцца расследаванне.

**Валянціна КАЗЛОВІЧ**

## «Ляжачыя» гаспадаркі

Да вясны будучага года ўрад павінен вырашыць лёс неплацёжаздольных прадпрыемстваў аграпрамысловага комплексу. Пра гэта заявіў міністр сельскай гаспадаркі і харчавання Беларусі Міхаіл Русы 30 лістапада на прэс-канферэнцыі ў Мінску.

«Ляжачых гаспадарак у нас 25-30%. Да 3 снежня мы іх павінны вычленіць і да 2 сакавіка 2002 года — вырашыць далейшы лёс ці рэкамендаваць, што рабіць», — паведаміў міністр. Паводле яго слоў, сёння існуюць дзесяць варыянтаў рэфармавання гэтай катэгорыі сельгаспрадпрыемстваў: арганізацыя фермерскіх гаспадарак, прыцягненне капіталу, у тым ліку замежнага, прымяненне працэдуры санацыі, банкруцтва, далучэнне да больш моцных гаспадарак і комплексаў і іншыя.

Кіраўнік мінсельгасхарча выдзеліў тры катэгорыі гаспадарак: апрача «ляжачых», гэта «моцныя і набліжаныя да іх «сераднякі», якім трэба не перашкаджаць, а дапамагаць тэхналогіямі, каб давесці ўраджайнасць збожжа да 100 цэнтнераў з гектара», і гаспадаркі «сярэдняй рукі» з рэнтабельнасцю 3-5%. «Для пашыранага ўзнаўлення неабходная рэнтабельнасць на ўзроўні 30%. Але тут «дапамагалі» і мы: гэта сацыяльна арыентаваная прадукцыя, і часам цэны стрымліваліся», — прызнаўся Русы. Паводле яго слоў, урад робіць «крок за крокам», каб ліквідаваць «перакос у закупачных цэнах»: «мяркую, што ў студзені-лютым мы выйдзем на ўзровень цэн нашых суседзяў — Расіі і Украіны. Сёння цэнавы перакос па асобных пазіцыях дасягае 70%».

**Дзмітрый УЛАСАЎ**

## НАПОІ

## Двухзменка для «Казановы»

Скарочаны рабочы тыдзень становіцца вымушанай нормай працоўнага рэжыму ў зімовы час на большасці перыферыйных прадпрыемстваў Брэстчыны. Ужо 12 «райсельгасхімій» абвесцілі сваім механізатарам аб адпачынках без аплаты. Спыняецца да будучага года рамонт зерне- і кормаўборачных камбайнаў у спецыялізаваных аддзяленнях ААТ «Сельгастэхніка» ў Пінскім, Ляхавіцкім, Столінскім і іншых раёнах. З-за рэзкага змяншэння паставак сыравіны 3 дні на тыдні працуе Лунінецкі малочны завод, 4 — Камянецкі, Маларыцкі, Ганцавіцкі.

У Ганцавічах, дарэчы, менш зараз сталі купляць сыр «Адыгейскі» і масла «Сялянскае», з-за чаго малако з калгасаў больш перапрацоўваюць на казеін тэхнічны. Затое нарошчвае выпуск віна мясцовае СП «Вінслаў». За 9 месяцаў гэтага года аб'ём вытворчасці дасягнуў 37.000 дэкалітраў — гэта ў 3,2 раза вышэй за адпаведны паказчык папярэдняга года. Для «сугрэву» насельніцтва больш разліваюць пладовае віно «Казанова». Паколькі яго рэалізавана ўжо на 350 мільёнаў рублёў, то са снежня «чарніла» павышанага попыту будуць вырабляць у дзве змены.

**Галіна БАРАВАЯ**

## У дапамогу ДАІ

У Беларусі створаны унікальныя ўзоры антыблакіровачных сістэм для айчынных аўтамабіляў. Антыблакіровачныя сістэмы для аўтамабіляў (АБС) рэзка паляпшаюць кіруемасць аўтамабіляў на слізкай дарозе, што, у сваю чаргу, садзейнічае зніжэнню ўзроўню аварыйнасці і траўматызму.

«Нашы сістэмы, у адрозненне ад заходніх узораў, аснашчаныя своеасаблівай «чорнай скрынькай», у якой фіксуюцца параметры тармазной сістэмы аўтамабіля і дзеянні вадзіцеля ў апошнія 40 секунд ваджэння, — адзначыў дырэктар навукова-інжынернага рэспубліканскага унітарнага прадпрыемства «Белаўтатрактарабудаванне» акадэмік Міхаіл Высоцкі. — Неўзабаве адыдуць у мінулае спрэчкі аб тым, хто вінаваты ва ўчыненні дарожна-транспартнага здарэння».

**Юрый КАСЬЯНАЎ**

## НЕТРЫ

## Хапае сваіх рэсурсаў

У сваёй дзейнасці міністэрства прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя павінна зрабіць акцэнт на рацыянальнае выкарыстанне прыродных рэсурсаў. Пра гэта 29 лістапада заявіў міністр прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя Лявонцій Харужык.

Як адзначаў Харужык, у краіне разведана каля 4 тысяч радовішчаў карысных выкапняў. З іх 600 разведана дэталёва, але толькі 300 знаходзяцца ў прамысловай распрацоўцы. Паводле словаў міністра, у краіне ёсць буйныя месцараджэнні мелу, сыравіны для вытворчасці алюмінію, шкла і будаўнічай галіны. Аднак з-за слабога асваення айчынных месцараджэнняў карысных выкапняў Беларусь штогод увозіць з Расіі і Украіны многія віды сыравіны, імпарт якіх (акрамя нафты, газу, металаў і фасфарытаў) можна істотна скараціць за кошт уласных крыніц.

Паводле яго словаў, неабходна перагледзець тарыфы на спажыванне вады. «Калі ў нашай краіне суб'ект гаспадарання плаціць за адзін кубаметр чыстай вады ад 2 да 3 рублёў, дык кошт падобных паслуг у Ізраілі ў 5 тысяч разоў вышэйшы», — паведаміў міністр.

Паводле яго словаў, неабходна больш шырока выкарыстоўваць другасныя рэсурсы, паколькі толькі 16% іх падвяргаюцца перапрацоўцы. Гаворачы пра праблемы утылізацыі адходаў, Харужык падкрэсліў, што гэтае пытанне знаходзіцца на пачатковым этапе рэалізацыі.

**Марат ГАРАВЫ**

## Зараза, на якую хварэюць мільёны

Толькі сёлета каля 5 мільёнаў чалавек па ўсім свеце заразіліся ВІЧ-інфекцыяй. Як паведамілі БелаПАН у прадстаўніцтве Аб'яднанай праграмы ААН па ВІЧ/СНІДу (ЮНЭЙДС) у Беларусі, пра першы клінічна пацверджаны выпадак захворвання на СНІД стала вядома ў чэрвені 1981 года.

Паводле звестак Рэспубліканскага цэнтра прафілактыкі СНІДу, зараз у нашай краіне зарэгістравана каля 4 тысяч ВІЧ-інфіцыраваных. У асноўным гэта моладзь.

**Вольга АСІПЕНКА**

## ПАДАРУНАК

## Калекцыя Музея Шагала папоўнілася

29 лістапада пасол ЗША ў Беларусі Майкл Козак перадаў Музею Марка Шагала ў Віцебску 33 кнігі пра мастака, выдадзеныя ў Амерыцы.

Як паведаміла БелаПАН старшы навуковы супрацоўнік музея Юлія Сцепанец, сярод падораных вырабаў — каталогі выставаў, рэпрадукцыі работ мастака, байкі вялікага французскага сатырыка Лафантэна і казкі «Тысячы і адной ночы», ілюстраваныя Шагалам, даследаванні, прысвечаныя адлюстраванню біблейскай тэматыкі ў творчасці майстра, кніга Вірджыніі Хагард «Маё жыццё з Шагалам», а таксама работа аб Шагалу вядомага расійскага мастацтвазнаўца Аляксандра Коменскага, выдадзеная ў ЗША.

Гэтыя кнігі папоўняць фонды бібліятэкі аб творчасці Марка Шагала і выяўленчым мастацтве XX стагоддзя, якая ствараецца ў музеі. Мяркуецца, што яе ўрачыстае адкрыццё адбудзецца 6-7 ліпеня 2002 года, калі будзе адзначацца 115-я гадавіна з дня нараджэння мастака. Сёння ў фондах бібліятэкі захоўваецца больш за тысячу тамоў на рускай, англійскай, галандскай, дацкай, іспанскай, італьянскай, нямецкай, французскай, шведскай і японскай мовах. Адзіная сярод гэтага збору кніга на беларускай мове — паэзія Марка Шагала.

**Марат ГАРАВЫ**

## Хваля нелегалаў

28 лістапада пры спробе нелегальнага перасячэння беларуска-літоўскай мяжы памежнікі затрымалі групу грамадзян В'етнама. Як паведамілі БелаПАН у прэс-цэнтры Дзяржаўнага камітэта пагранічных войскаў Беларусі, 10 нелегалаў былі затрыманы на адным з участкаў Лідскага пагранічнага атрада.

У зоне адказнасці лідскіх памежнікаў гэта ўжо другая спроба масавага перасячэння мяжы за апошнія два дні. Як паведамляў БелаПАН, 26 лістапада на ўчастку аднаго з пагранічных пастоў памежнікі сумесна з супрацоўнікамі Іўеўскага РАУС затрымалі мікрааўтобус «мерседэс», у якім знаходзіліся 15 грамадзян Афганістана. Усе затрыманыя знаходзяцца ў ізалятары часовага ўтрымання.

**Вячаслаў БУДКЕВІЧ**

## Тры сотні злачынстваў на дзень

За 10 месяцаў гэтага года ў Беларусі зарэгістравана 92.830 злачынстваў (у сярэднім па 305 злачынстваў у дзень). Паводле звестак Міністэрства ўнутраных справаў, гэта на 13,8% менш за паказчык аналагічнага перыяду мінулага года. На 10.000 жыхароў зарэгістравана 93 злачынствы. Найбольшыя паказчыкі зафіксаваны ў Гомельскай і Магілёўскай абласцях (па 112), Мінску (100) і Віцебскай вобласці (96).

Колькасць зарэгістраваных выпадкаў згвалтаванняў і замахаў на згвалтаванне паменшылася на 20,5% (353), хуліганства — на 16,4% (4.315), махлярства — на 4,7% (4.109), кватэрных крадзяжоў — на 7,3% (15.201).

У той жа час на 2,5% павялічылася колькасць забойстваў і замахаў на забойства (989), на 9,9% — злачынстваў, звязаных з наркотыкамі (3.565), на 11,2% — выпадкаў хабарніцтва (871). Зарэгістравана 7,4 тыс. злачынстваў, учыненых у грамадскіх месцах.

Раскрыццё злачынстваў у студзені-кастрычніку 2001 года склала 62,1% супраць 69,2% у студзені-кастрычніку 2000 года.

**Дзмітрый УЛАСАЎ**



## СПОРТ



Фота Ю. ШЛАПАКА

1 снежня ў Мінску прайшоў Першы гарадскі чэмпіянат па спартыўнай сауне. У гэтых экзатычных спаборніцтвах перамагае той, хто перасядзіць усіх у парылцы. Пасля сауны парыльшчыкаў адносілі ў імправізаваны басейн

# Месца, дзе пахавалі Завадзкага, вядомае

*Заканчэнне, пачатак на стар.1*

Машына стаяла ў аэрапорце, каб кантраляваць дзеяньні Шарамета, каб Шарамет знаходзіўся ў аэрапорце гадзіну-паўтары і ўсе людзі, якім трэба, ведалі, што Шарамет знаходзіцца менавіта ў аэрапорце, і калі трэба і яго яшчэ забраць, то... забярэм і Шарамета.

***– Андрэй, калі б вы маглі даць параду суду ў справе Завадзкага, што б вы яму параілі?***

– Суду даваць парады цяжка. Мы спадзяваліся, што ў суда ёсьць яшчэ гонар і годнасьць, а яны проста вырашылі гэтую справу прычыніць, даць усім «вышак», і каб гэтая справа была пахаваная. Павінен быць міжнародны суд. Вось у гэтым судзе ўсе распавядуць і пра справу Завадзкага, і пра справу Ганчара з Красоўскім, бо гэта ўсё зьвёны аднаго ланцужка.

**Генадзь УГЛЯНІЦА:**

– Калі падпісвалі пад гэтую справу Ігнатовіча, праз некаторы час, зрабіўшыператрус у яго машыне, знайшлі (пры паўторным вобыску) лапатку са сьлядамі крыві Завадзкага. Экспэртызу рабілі ў Расеі, яна пацьвердзіла, што кроў належыць Завадзкаму. Пытаньне – як яна аказалася ў машыне, якая была апячатаная і ўжо прагледжаная? Хто мог падкласьці?

***– А калі яе праглядалі і апячатвалі, там рыдлёўкі не было?***

– Не было. Падчас першага вобыску яе там не было.

***– Значыць, вы лічыце, што гэтую лапатку проста падкінулі падчас сьледзтва?***

– Так, яе падкінулі падчас сьледзтва. І чаму да Ігнатовіча ў турму хадзіў міністар МУС Навумаў, чаго ён там дабіваўся? Ігнатовіч да гэтага крычаў, маўляў, я не вінаваты. Пасьля візыту ён змоўк. Мы ведаем прыкладна, як знайшлі труп Завадзкага і хто паказаў месца, дзе ён пахаваны.

***– Вы можаце цяпер пра гэта сказаць?***

– Цяпер мы можам пра гэта сказаць. Пра гэта апрача нас ведаюць яшчэ прыкладна чалавек 20. Сярод іх – былы старшыня КДБ Мацкевіч, былы пракурор Бажэлка, ведае Алкаеў, ведае Лапацік, ведае Сівакоў, ведае Паўлічэнка, ведае Навумаў, і ведае малодшы брат спэцназаўца Юрыя Будзько Уладзімер Будзько, якога злавілі супрацоўнікі КДБ на даху музэя Янкі Купалы са снайпэрскай вінтоўкай, і якога туды пасадзіў Зьміцер Паўлічэнка... І вось пытаньне – каго ён павінен быў забіць?..

***– Дык дзе цела Завадзкага?***

– Дзе яно знаходзіцца зараз, я ня ведаю. Але месца, дзе яно было пахаванае, калі Завадзкі быў забіты, выдаў малодшы Будзько – Уладзімер Будзько, які зараз на свабодзе. Яму інкрымінавалі пасьля затрыманьня са снайпэрскай стрэльбай ці то крадзёж, ці то яшчэ што, ён быў асуджаны ўмоўна ваенным судом, і пакараньне яму было – папраўчыя работы ці нешта падобнае, бо яго адмазаў спадар Паўлічэнка...

**Сяргей НАВУМЧЫК**
**Радыё «Свабода»**

# Сацыял-дэмакраты афармілі развод

У нядзелю адбыўся ўстаноўчы з'езд Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі. На ім прысутнічала каля 120 дэлегатаў з усёй Беларусі. Усе дэлегаты раней былі сябрамі партыі БСДП (НГ), якую ўзначальвае Мікола Статкевіч. Стварэнне новай партыі ўдзельнікі з'езда тлумачаць як развязанне даўно існуючага канфлікту ў кіраўніцтве БСДП(НГ), якое, на іх думку, адышло ад дэмакратычных прынцыпаў. Мэты новай партыі – грунтуючыся на сацыял-дэмакратычных каштоўнасцях, аб'яднаць усіх сацыял-дэмакратаў краіны. Сябрамі новай партыі сталі амаль усе тыя, хто пачынаў Народную Грамаду разам з Міхасём Ткачовым: гэта сп. М.Чарняўскі, А.Сідарэвіч і інш.

Партыяй будуць кіраваць Нацыянальная Рада і Выканаўчы камітэт, які ўзначалілі Анатоль Гурыновіч і Аляксей Кароль. Пасады старшыні партыі пакуль няма.

**Павел КРЫЛЬСКІ**



# Яшчэ год без візаў у Польшчу

Паводле запэўніванняў прадстаўнікоў польскага ўраду ў Брусэлі, адказных за правядзенне перамоў пра ўваход Польшчы ў ЕС, Польшча будзе ўводзіць візавы рэжым для беларусаў і расіянаў не раней за 2003 год. Але пры гэтым агаворваецца, што фармальнае рашэнне ўраду ў гэтым пытанні яшчэ не прынята. Палякі абяцалі еўрапейскім структурам, што ўвядуць візы для сваіх усходніх суседзяў да канца гэтага году, імкнучыся адсунуць гэты крок на як мага больш аддалены тэрмін. Чэхія і Венгрыя, а таксама Славакія ўвялі візавы рэжым з былымі суб'ектамі СССР пару гадоў таму. Аднак і гэты тэрмін для Польшчы стаўся непрымальным — у бюджэце няма грошай на гэта мерапрыемства. А сродкі на развіццё звязанай з увядзеннем візаў інфраструктуры – на арганізацыю новых консульскіх прадстаўніцтваў, кампутары, а таксама дадатковы персанал – патрэбныя вялікія.

Магчыма, адсоўваючы на год рашэнне пытання пра ўвядзенне візаў для нас, палякі спадзяюцца таксама, што іхны бюджэт 2002-га папоўніцца прыбыткам ад так званага памежнага гандлю, пад якім разумеюць закуп замежнікамі тавараў у Польшчы. Аднак у медаля ёсць і адваротны бок. Еўрапейскі Саюз можа «пакараць» Польшчу за спазненне з увядзеннем візаў: не будзе закрыты раздзел перамоў у галіне юстыцыі і ўнутраных спраў. Еўрапейскі Саюз хоча гарантый з боку польскага ўраду ў тым, што ён знойдзе ў бюджэце грошы на пашырэнне памежных пераходаў на ўсходняй мяжы і іх кампутарызацыю.

Палякі павінны таксама прадставіць ЕС канкрэтны графік пераводу людскіх і матэрыяльных рэсурсаў з заходняй мяжы на ўсходнюю, якая стане ў будучыні самай доўгай наземнай мяжой аб'яднанай Еўропы.

Яшчэ больш, чым беларусы ды расіяне, складзенай сітуацыі могуць радавацца ўкраінцы, якія захаваюць права бязвізавага ўезду ў Польшчу да моманту ўваходу апошняй у ЕС, г.зн., ва ўсякім разе, да 2004 году, а можа, і пазней.

**Людміла ГУЛЯКЕВІЧ**

# Парушаюць правы працоўных

Генеральны сакратар Міжнароднай канфедэрацыі свабодных прафсаюзаў (МКСП) Біл Джордан назваў Беларусь сярод краін, дзе парушаюцца правы працоўных.

Выступаючы на IV з'ездзе Федэрацыі незалежных прафсаюзаў Расіі (ФНПР), які прайшоў на мінулым тыдні ў Маскве, Біл Джордан заявіў, што барацьба за правы працоўных з'яўляецца адным з асноватворных прынцыпаў дзейнасці МКСП, Федэрацыя незалежных прафсаюзаў Расіі яе ўсяляк падтрымлівае. Напрыклад, па словах Джордана, ФНПР падтрымала кампаніі Міжнароднай канфедэрацыі ў Калумбіі, дзе больш як 130 прадстаўнікоў прафсаюзаў былі забітыя; у Бірме, дзе ваенная хунта скарыстоўвала рабскую прымусовую працу, і ў Беларусі, дзе МКСП працягвае барацьбу за поўнае выкананне правоў прафсаюзаў. «Мы вельмі высока ацэньваем той уклад, які зрабіла Федэрацыя незалежных прафсаюзаў Расіі ў дасягненне і выкананне дэмакратычных свабод у Беларусі. Увесь свет даведаўся, што расійскія прафсаюзы і іх салідарнасць з'яўляюцца рэальнасцю», — сказаў Біл Джордан.

**Наталля КУЛАГІНА**

ТЭНДЭНЦЫІ

# Навумаў пойдзе ў адстаўку?

Паводле крыніцаў, блізкіх да міністэрства ўнутраных справаў, міністар Уладзімер Навумаў просіцца ў адстаўку, матывуючы сваю заяву станам здароўя. Афіцыйна ў міністэрстве, аднак, не пацьвярджаюць гэтых зьвестак.

Крыніцы ў міністэрстве ўнутраных справаў сьцьвярджаюць, што днямі міністар Уладзімер Навумаў падаў Аляксандру Лукашэнку рапарт аб адстаўцы.

Паводле гэтых крыніцаў, Навумаў нібыта матывуе сваю просьбу праблемамі са здароўем. Быццам бы ягоны рапарт прынялі да разгляду, але яшчэ не падпісалі, бо пакуль не знайшлі замены. Між тым, крыніцы не выключаюць, што да канца году пытаньне вырашыцца.

Сам Уладзімер Навумаў, аднак, не пацьвярджае гэтых зьвестак. Паводле прэсавага сакратара МУС Зьмітра Партона, «Навумаў сустрэў сьмехам чуткі пра ягоную адстаўку». Зьміцер Партон запэўніў, што ягоны шэф у добрай форме і не выказвае жаданьня перайсьці на іншую працу.

«Наколькі мне вядома, два месяцы таму Уладзімер Навумаў правёў тыдзень у шпіталі МУС, але гэта быў звычайны прафіляктычны курс, ён толькі пацьвердзіў добры стан здароўя міністра», — заявіў прэсавы сакратар МУС Зьміцер Партон.

Між тым, крыніцы сьцьвярджаюць, быццам насамрэч са здароўем у Навумава ня ўсё добра. Кажуць, што яшчэ ўлетку міністар праходзіў сур'ёзны курс лячэньня ў шпіталі МУС і з таго часу нават у замежных камандзіроўках яго суправаджаюць дактары.

Існуе, аднак, і тая вэрсія, што здароўе — толькі падстава адправіць міністра ў адстаўку. Крыніцы не выключаюць, што ў кіраўніцтва краіны насьпела рашэньне менавіта Навумава зрабіць адказным за праблемы са злачыннасьцю, недастатковую барацьбу з карупцыяй і няўдачы ў расьсьледаваньні зьнікненьняў апазыцыянэраў.

Нагадаю, Уладзімер Навумаў прыйшоў на пасаду міністра ўнутраных справаў 13 месяцаў таму з пасады кіраўніка службы аховы Лукашэнкі. На загад Лукашэнкі ён неўзабаве ўзначаліў міжведамасную групу ў справе расьсьледаваньня зьнікненьняў Захаранкі, Ганчара, Красоўскага і Завадзкага, аднак пра пэўныя вынікі гэтых расьсьледаваньняў магчыма казаць толькі ў справе апэратара ОРТ Зьмітра Завадзкага. Зараз ідзе суд над ягонымі магчымымі выкрадальнікамі, хаця, паводле крыніцаў з суду, яшчэ не прагучала доказаў віны арыштаваных.

А вось прозьвішча міністра Навумава ў судзе ўжо гучала. Павал Шарамет, спасылаючыся на сьведкаў, заявіў, што міністар Навумаў патрабаваў ад аднаго з абвінавачаных, Валерыя Ігнатовіча, узяць на сябе адказнасьць за выкраданьне Завадзкага.

**Алег ГРУЗЬДЗІЛОВІЧ**
**Радыё «Свабода»**

# Беларусь імкнецца ў СГА

Працэс уступлення ў Сусветную гандлёвую арганізацыю (СГА) звязаны з правядзеннем складаных унутрыдзяржаўных працэдур, якія патрабуюць ад Беларусі прапрацоўкі пазіцый па многіх пытаннях. Пра гэта 30 лістапада, выступаючы ў Палаце прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Беларусі, заявіў міністр юстыцыі Віктар Галаванаў.

Паводле яго слоў, зараз урадам падрыхтаваны план законапраектных работ, неабходных для ўступлення Беларусі ў гэтую арганізацыю.

У галіне падаткаабкладання асноўнымі патрабаваннямі СГА ёсць пераход на збіранне ўскосных падаткаў па прынцыпу краіны прызначэння, а таксама прымяненне аднолькавых падаткаў на дададзены кошт да айчыннай і імпартуемай прадукцыі. Дадзенае патрабаванне неабходна ўлічваць пры распрацоўцы Падатковага кодэкса Беларусі.

Паводле яго слоў, у законе «Аб ліцэнзаванні» Беларусь павінна прытрымлівацца патрабаванняў, што ўтрымліваюцца ў артыкулах Генеральнага пагаднення па гандлю паслугамі, згодна з якім ліцэнзаванне павінна грунтавацца на аб'ектыўных крытэрыях. У галіне мытнага афармлення Беларусі неабходна перайсці да фіксаванай стаўкі падаткаабкладання замест дзеючай, вылічаемай у працэнтах ад мытнага кошту. Яшчэ пакет заканадаўчых актаў трэба будзе прыняць у сферы абароны інтэлектуальнай уласнасці.

Для заканадаўчага афармлення ўмоў, неабходных для ўступлення Беларусі ў СГА, створана спецыяльная рабочая група, якую ўзначальвае старшыня пастаяннай камісіі Савета Рэспублікі Нацыянальнага сходу па эканоміцы, бюджэту і фінансах Таццяна Быкава. Гэтая група актыўна супрацоўнічае з Міжнародным гандлёвым цэнтрам. Візіт дэлегацыі гэтай арганізацыі ў Беларусь запланаваны на сярэдзіну снежня гэтага года. Пасля яго план заканатворчых работ, якія будуць садзейнічаць далучэнню Беларусі да СГА, будзе дапрацаваны і перададзены ў Савет міністраў на зацвярджэнне, сказаў Галаванаў.

**Юрый ПАЦЁМКІН**

# Бандажэўскага чакалі ў Альманах

Навуковы досвед прафесара, былога рэктара Гомельскага медінстытута Юрыя Бандажэўскага атрымаў высокую адзнаку на семінары «Рэабілітацыя ўмоваў жыцця на тэрыторыях, забруджаных у выніку Чарнобыльскай аварыі», які па міжнароднай праграме «ЭТОС» праведзены ў Столінскім раёне. Сярод 160 ягоных удзельнікаў быў пасол Францыі ў Беларусі спадар Бернар Фасье, кіраўнік праекта Жыль Эрыар Дзюбрэ, прадстаўнікі ААН і Сусветнага банка, спецыялісты па радыяцыйнай бяспецы, эксперты-радыёлагі з шэрагу еўрапейскіх інстытутаў. У вёсцы Альманы, якая найбольш на Брэстчыне заражана радыяцыяй, былі агучаныя вынікі медыцынскага кантролю групы Ю.Бандажэўскага за здароўем дзяцей. Ужо даказана, што высокія ўзроўні цэзію-137 у арганізме дзяцей з'яўляюцца першапрычынаю рэзкага пагаршэння іхняга стану, а пры ўзроўні актыўнасці гэтых назапашванняў у арганізме дзіцяці да 50 Бк/кг рэгіструюцца паталагічныя змены жыццёва важных органаў.

Прадстаўнікі замежжа шкадавалі, што іхні беларускі калега адлучаны зараз ад удзелу ў праекце «ЭТОС». Гэта адна з прычынаў, што Еўрасаюз вымушаны большую частку фінансавання зняць на карысць новай даследчай праграмы ў Францыі.

**Надзея СВЯТЛІЧНАЯ**

## Хто сядзіць у інтэрнэце?

На Трэцім беларускім інтэрнэт-форуме, што праходзіў у Мінску з 29 лістапада па 1 снежня, былі прадстаўленыя вынікі онлайнавага апытання, праведзенага ў лістападзе сярод карыстальнікаў Байнета. Першае такое анкетаванне ладзілася сёлета ў лютым. На іхнай аснове досыць яскрава вымалёўваецца партрэт тыповага інтэрнэтчыка. Гэта сталічны хлопец-студэнт з хатнім кампутарам, заробка яму хапае толькі на харчаванне, аднак штодзённыя «вылазкі» ў Сеціва (можа, эканомячы на ежы) ён аплачвае самастойна. Ён ведае ангельскую мову, ягоная вучоба ці праца звязаныя з кампутарамі і сувяззю, таму і ў Сеціве яго больш за ўсё цікавіць звязаная з гэтым інфармацыя. Гэта вобраз прыкладна кожнага трэцяга інтэрнэтчыка.

За мінулы з лютага час гэты партрэт істотна не змяніўся. Заўважна, што фінансавае становішча сярэдняга аматара баўлення часу ў Сеціве пагоршылася, бо яшчэ ў лютым за свой месячны заробак ён мог сабе дазволіць прыкупіць, акрамя ежы, яшчэ і адзення. Аднак пакрыху набірае моц праслойка інтэрнэтчыкаў, у якіх няма ніякіх фінансавых цяжкасцяў – прырост на 8%. І такіх карыстальнікаў у Сеціве ўжо 15%.

Кожны трэці карыстальнік інтэрнэта ў веку з 21 да 30 год, кожны чацвёрты – з 19 да 21 года. На змену маладзейшым у інтэрнэт прыходзяць старэйшыя, пераважна служачыя і спецыялісты, каму Сеціва неабходнае як інструмент працы.

**Алена ЛАБАНАВА**

## Студэнт, прагны да кнігаў

У штаце Канектыкут паліцыя Ельскага універсітэта арыштавала студэнта Бенджаміна Джонсана, які выкраў з універсітэцкай бібліятэкі купу рэдкіх манускрыптаў і кніг на агульную суму болей за 43 мільёны даляраў. Здабычай Джонсана, які ўсяго год таму ўладкаваўся працаваць ва універсітэцкім сховішчы рэдкай кнігі, сталі арыгіналы пісьмаў Джорджа Вашынгтона, Бенджаміна Франкліна, Ісака Н'ютона, прыжыццёвыя выданні Твэна, Дыкенса, Мэлвіла, Сэлінджэра. Відавочна, не разумеючы рэальнай гістарычнай каштоўнасці накрадзенага, Джонсан выразаў з пісьмаў кавалкі паперы з подпісамі прэзідэнтаў і прапаноўваў іх калекцыянерам. Адзін з іх і паведаміў пра падазронага маладога гандляра рарытэтамі ў паліцыю. У выніку вобшуку інтэрната, дзе жыў Джонсан, былі знойдзеныя пашкоджаныя манускрыпты XVIII і XIX стагоддзяў і кнігі. Студэнта абвінавацілі ў наўмысным пашкоджанні гістарычных дакументаў і выпусцілі да суду пад заклад у 50 тысячаў даляраў. Дарэчы, грошы на заклад былі здабыткам ад продажу скрадзеных дакументаў.

**Вера БЫЛІЧ**

ТЭНДЭНЦЫІ

## Аперацыя супраць парнаграфіі

Супрацоўнікі праваахоўных органаў 19 краінаў прынялі ўдзел у скаардынаванай аперацыі па барацьбе з распаўсюджвальнікамі дзіцячай парнаграфіі ў інтэрнэце. У Англіі былі арыштаваныя 9 чалавек, а іхнія кампутары канфіскаваныя, а яшчэ 120 чалавек абвешчаныя ў міжнародны вышук. Кіраўнікі расследавання паведамілі, што на многіх карцінках былі жахлівыя сцэны з гвалтам над зусім маленькімі дзецьмі. Аперацыі папярэднічала расследаванне тэрмінам у дзесяць месяцаў, якое дазволіла высветліць, што людзі, якія абменьваюцца, пастаўляюць і праглядаюць гэтыя порнаматэрыялы часта добра адукаваныя і заможныя. Кіравала аперацыяй *National Crime Squad*. Гэтае падраздзяленне было створана ў Вялікабрытаніі ў 1998 годзе для барацьбы з міжнароднай арганізаванай злачыннасцю, гандлем наркотыкамі і людзьмі, вырабам фальшывых дакументаў і грошай, нелегальнымі гандлёвымі пагадненнямі са зброяй. Яны правялі маніторынг 33 інтэрнэт-выданняў за 16 дзён і знайшлі, што за гэты час 60.000 порнакарцінак былі загружаныя ў «сусветнае павуціннe» і прададзеныя. На нарадзе Інтэрпола ў Ліёне праваахоўным органам 19 краінаў перадалі дадзеныя пра 130 падазраваных і копіі порнапрадукцыі. У лік гэтых краінаў уваходзяць Вялікабрытанія, Аўстралія, Канада, Францыя, Германія, Ізраіль, Італія, Японія, Карэя, Нідэрланды, Новая Зеландыя, Партугалія, Расія, Іспанія, Швецыя, Тайвань, Турцыя, ЗША. Будуць таксама апублікаваныя для шырокага ведама імёны педафілаў, якім удалося пазбегнуць арышту.

**NewYork Times**

# Сталін, Франка і шпіён

Лонданская газета *The Times* апублікавала матэрыял пра тое, што самы вядомы двайны агент часоў «халоднай вайны» Філбі быў напачатку сваёй кар'еры наняты Сталіным для забойства генерала Францыска Франка ў часе грамадзянскай вайны ў Іспаніі (1936–1939). Газета сцвярджае, што, згодна з нядаўна адкрытым архівам брытанскай выведнай службы M15, менавіта Філбі быў тым чалавекам, які атрымаў у 1937 годзе заданне Масквы знішчыць Франка. Тады Філбі пад выглядам карэспандэнта газеты *The Times* асвятляў падзеі грамадзянскай вайны паміж рэспубліканцамі і путчыстамі. Аднак план забойства быў адхілены пасля таго, як знік адзін з кіраўнікоў Філбі, раптоўна адкліканы з Іспаніі ў Маскву. Адпаведна з дакументам M15, гэты план быў распрацаваны Мікалаем Яжовым, тагачасным кіраўніком НКВД і адным з самых жорсткіх выканаўцаў бальшавіцкага тэрору ў СССР. План быў ухвалены Сталіным асабіста.


Іосіф Сталін


Францыска Франка


Кім Філбі

Існуе падазрэнне, што двайны агент Філбі быў завербаваны савецкімі спецслужбамі ў 30-х гадах, калі ён пражываў у Вене. Пасля вяртання ў Англію Філбі пачаў актыўна праяўляць сябе, што было неабходна, каб патрапіць у брытанскую службу разведкі. Неўзабаве Філбі паехаў у Іспанію ў якасці ўласнага карэспандэнта газеты, абраўшы адпаведна яжоўскаму плану бок путчыстаў. Філбі ідэальна падыходзіў для выканання гэтага забойства. Непрадбачаныя і не зусім ясныя да сёння абставіны не далі яму здзейсніцца. Больш за тое, генерал Франко ўзнагародзіў Філбі ордэнам Чырвонага крыжа за ваенныя заслугі пасля выпадковага ранення асколкам рэспубліканскага снарада.

Філбі аказаўся самым вядомым шпіёнам у гісторыі КДБ. У 1940 годзе яму ўдалося паступіць у Брытанскую Сакрэтную Службу (*SIS*), дзе ён дасягнуў пасады кіраўніка антысавецкага аддзела. У адзін з момантаў яго надзвычай паспяховай кар'еры Лондан зрабіў яго сваім сувязным з ЦРУ ў Вашынгтоне, дзякуючы чаму ён меў доступ да сакрэтных дакументаў дзвюх буйнейшых выведслужбаў Захаду. Усе аперацыі, скаардынаваныя між ЦРУ і брытанскай *SIS*, былі вядомыя Маскве непасрэдна з першых рук. Брытанская контрвыведка не злолела раскрыць яго, пакуль ён сам не ўцёк у СССР.

**Іван ДАНЧАК**

# Алкаголь і рост нараджальнасці

*У Даніі завершылася маштабнае даследаванне маладых маці, якое праводзіў Каралеўскі каледж акушэраў і гінеколагаў. За чатыры гады былі апытаныя каля 40 тысяч жанчын з мэтаю высветліць, якую ролю мела спажыванне спіртовых напояў для зачацця іхных дзяцей. Інакш кажучы, дактары высвятлялі, ці пілі дацкія жанчыны незадоўга да інтымнага акту, у выніку якога з'явіліся новыя грамадзяне краіны.*

У працэсе даследавання выявілася шмат цікавага. Шмат жанчын (15% апытаных) пры ўсім жаданні, не маглі зацяжарыць на працягу году, а то і двух-трох. Алкаголь тут, здаецца, іграе пэўную ролю, бо сярод датчанак, якія не п'юць, цяжкасці з зачаццем адчувалі 18%, сярод тых, хто п'е шмат, — 22%, а сярод жанчых, якія п'юць «не надта многа» – усяго 12%. Астатнія рабіліся патэнцыйнымі маці ўжо праз два месяцы пасля ўзнікнення гэтакага станоўчага жадання. Прычым 79% жанчын, якія нарадзілі паспяхова, заявілі, што перад зачаццем рэгулярна спажывалі спіртовыя напоі, 12% зусім адмаўлялі факт спажывання, а 1% жанчын шчыра прызналіся, што пілі шмат. У дацкім разуменні «рэгулярна» — азначае 7 порцыяў алкаголю на тыдзень, а «шмат» – болей за 14. Пад порцыямі ва ўсім цывілізаваным свеце разумеюць стандартную рэстаранную дозу – куфаль піва, 150 грамаў віна, 50 грамаў больш моцных напояў.

Адзін з кіраўнікоў даследавання доктар Пітэр Боўэн-Сімпкін звязвае станоўчы ўплыў алкаголю на дзетанараджальнасць з гармонамі і раіць усім сваім пацыенткам перад начнымі сустрэчамі з мужам выпіваць крыху віна, па-першае, каб адчуваць сябе больш раскавана, па-другое, каб дазволіць мозгу выдзеліць лішак гармонаў, якія садзейнічаюць авуляцыі.

Кіраўніца ўсяго праекту доктарка Мэт Джухл болей асцярожная. Яна не заклікае ўсіх жанчын напівацца перад «гэтым», але лічыць, што нават празмернае па заходніх мерках спажыванне алкаголю жанчынамі ніяк не адбіваецца на зачацці. Наадварот, рызыка надоўга застацца без нашчадкаў нашмат вышэй у прынцыповых цвярозніц. Бо звычайна яны не п'юць у сувязі з пэўнымі прычынамі – напрыклад, з-за слабасці агульнай канстытуцыі, схільнасці да некаторых хваробаў ці другіх праблемаў са здароўем, якія ўплываюць на рэпрадуктыўную здольнасць.

Наагул пры зачацці пэўную ролю адыгрывае мноства пабочных фактараў – ад узросту і колькасці папярэдніх цяжарнасцяў да лішка вагі цела, настрою і шкодных звычак (паленне, прыкладам, рэзка змяншае працэнт удачных зачаццяў). Затое ў момант зачацця на будучы плод ніяк не ўплывае прысутнасць алкаголю ў арганізме – бо выспелая яйцаклетка ніяк не злучана з крывяноснай сістэмай сваёй гаспадыні. І гэта цалкам абвяргае папулярную думку, што цяжарнасць і алкаголь несумяшчальныя, як агонь і вада, а пасля п'янага зачацця дзеці выходзяць не надта здаровыя і ладныя.

Аднак, дацкае даследаванне ўсё ж даволі аднабаковае. Па-першае, гінеколагі не пацікавіліся, ці многа пілі жанчыны ў перыяд цяжарнасці. Па-другое, даследаванне зусім не закранула мужчын – таксама непасрэдных удзельнікаў «вытворчасці» наступнага пакалення. Колькі выпівалі дацкія мужчыны ў доўгачаканы дзень апладнення, так і застаецца таямніцай. Застаецца гадаць, ці трымаліся яны традыцыйных інструкцыяў, адпаведна з якімі мужчыне неабходна спыніць спажыванне ўсялякага алкаголю і паленне прыкладна за месяц да пачатку запланаванай цяжарнасці сваёй сяброўкі. Калі ўлічыць, што шмат якім датчанкам прыходзілася па году чакаць паспяховага апладнення, дык долі іхных мужоў (пазбаўленых на такі тэрмін тытуню і гарэлкі) не пазайздросціш.

Аднак неабходна заўважыць, што яшчэ ніводнае навуковае даследаванне не знайшло доказаў добрага ўздзеяння алкаголю на цяжарных. Так што назапашаныя людзьмі за тысячу гадоў назіранні пакуль неаспрэчныя. Можа, бяды ад пляшкі віна і не будзе, але і дабром яно не абернецца — лепш не рызыкаваць.

**BBC**



# Астрологический прогноз

## от Вероники Кудрявцевой на 3 – 9 декабря

***Астропрогноз отражает общий природный социально-психологический фон наподобие прогноза погоды. Индивидуальное прогнозирование строится на точных данных: учитываются день, месяц, год, место и время рождения человека.***


**ОВЕН.** Подготовка к дальней поездке проходит в напряженном ритме, а уж если есть планы уехать навсегда, то стоит крепко подумать, решить вопросы с долгами. Кому-то хотелось бы поставить точку в тяжбе с государственными структурами или служащими, но процесс затягивается. Хороший адвокат или заступник – половина успеха. Пятница и суббота могут пройти в «полетах во сне и наяву» от радости общения и флирта.


**ТЕЛЕЦ.** Разборки с друзьями носят сомнительный и запутанный характер. Возможно, вам придется подыскивать себе компанию поприличнее, иначе можно остаться без рубля в кармане. Жизнь насыщена драматическими поворотами. Любовь и слезы – два в одном. Однако в пятницу и субботу вы обнаруживаете, что хватает сил не только на преодоление трудностей, но и на интригу в любви. Ревность творит чудеса.


**БЛИЗНЕЦЫ.** Ориентиры теряются, и многое кажется бессмысленным. А тут еще и жизненно важные вопросы становятся ребром. Вероятно, кто-то готов пойти на конфликт, но решить свои профессиональные задачи. Однако учтите, что, скорее, вам придется чуть позже уволиться. В конце рабочей недели в лагере сочувствующих и поддерживающих вас пополнение. И есть шанс найти отличный компромисс.


**РАК.** Берегите силы, здоровье, кто-то слишком углубился в служебные обязанности. Вероятно, появится желание вырваться из замкнутого круга повседневных дел, задумать нечто глобальное. Хотя ваши желания пока четко не оформлены, к пятнице могут обозначиться варианты. В конце рабочей недели намечается веселое мероприятие, во время которого вы сможете кое-что решить и восстановить гармонию в отношениях.


**ЛЕВ.** Вы просто горите огнем желаний, играете драматическую пьесу. Постарайтесь, чтобы вы сами для себя не выстроили ловушку и не взрастили соперника. К любимому человеку и собственным детям требования непомерны. Ближе к выходным супруг или партнер готов к романтической поездке и к дебатам в суде. В пятницу и субботу или вы кого-то сведете с ума, или вас вдохновят на творческие полеты.


**ДЕВА.** Более всего вас беспокоят растущие, как ком, внутренние проблемы. Очень сложно разобраться, кто прав, а кто виноват. Но к пятнице и субботе вы способны будете сделать справедливые выводы. У кого-то из домашних или очень близких людей намечается официальное мероприятие или юбилей. В доме появляются предметы военного или походного снаряжения.


**ВЕСЫ.** Неплохо бы проверить замки и исправность сигнализации, исключить возможность проникновения в дом посторонних. Вообще-то намечается общение с людьми разрушительного склада, или же знакомым предстоят какие-то суровые испытания. Начиная с пятницы, можно забыть обо всем, устроить праздник, поэтический вечер. Вы становитесь необыкновенно привлекательными, кто-то из-за вас готов будет ринуться в бой.


**СКОРПИОН.** Запас сил и средств иссякнет довольно быстро, если вы будете так их транжирить. В любви лишь обозначится кардинальный выбор, вы пока не можете никуда приткнуться. Да и ребенок беспокоит трудно раскрываемыми мотивами поведения. Ближе к выходным намечается альтернативный источник доходов, подарок от сослуживца. А квартира приобретает ухоженный вид с дизайнерскими ухищрениями.


**СТРЕЛЕЦ.** Вы много на себя берете, стараетесь сделать по максимуму ради благополучия в родном доме. Не исключено, правда, что кто-то надумает этот дом сменить. Вероятно, из-за ваших деяний, долгов могут придти к близким за расчетом. В пятницу и субботу вы талантливый игрок и аферист. Можете проверить формулу: «или повезет в игре – или в любви». Намечается душевная компания ближе к выходным.


**КОЗЕРОГ.** Тайные враги преследуют, предстоят испытания из-за того, что кто-то может оболгать. Состояние здоровья ослаблено, из-за чего могут всплыть странные болячки. Лучше пока расслабиться, примерить роль затворника. Однако фортуна мелькнет в пятницу и субботу, неплохо бы обратиться за поддержкой и юридической помощью. У вас может появиться совсем неожиданно покровительство, даже коллективное.


**ВОДОЛЕЙ.** Слишком много людей вовлекаются в вашу личную жизнь, и это порой вредит. Не исключено, что придется «сражаться» с друзьями детей, ведь они способны пустить по миру. Игрок из вас сейчас рисковый, и благополучный исход вероятен ближе к выходным. Раскрывайте миротворческие таланты и сострадание, и вы спасете не одну потерявшуюся в этом мире душу.


**РЫБЫ.** Пока вы зреете в выборе дальнейшего пути и самоопределения, будьте пощепетильнее в финансовых вопросах. Кто-то из домочадцев вовлечен в серьезные дела, и вам никуда не деться от переоценки ценностей, друзей и существенных действий. Ближе к выходным кого-то ожидает долгожданный мир и свобода, надежда на справедливость судьбы. Ваши хлопоты не пропадут даром, главное – не прячьтесь, а действуйте.


Галоўны рэдактар **Павел ЖУК**

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана з дыяпазітываў заказчыка на паліграфічным РУП «Чырвоная звязда»
220073, г. Мінск, Першы загарадны завулак, 3. Заказ №1791 Нумар падпісаны ў друк 2/12/2001 (15:00) Наклад – 9.090